ПРАВА
ВЕСНІК АБАРОНЧЫ
КАСТРЫЧНІК, 2012
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ





# У ПАРЭ падтрымалі кандыдатуру Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру

*Як паведамляе карэспандэнт ИТАР-ТАСС са Страсбура, кандыдатура Алеся Бяляцкага знайшла аднагалосную падтрымку сябраў камітэту ПАРЭ. Гэтае рашэньне было агучанае на пленарнай сэсіі ПАРЭ.*

**Упершыню вылучыць беларускага праваабаронцу прапанавала ў студзені гэтага году група дэмакратаў і лібэралаў у Асамблеі. Тады адпаведную пэтыцыю падпісаў 41 дэпутат. Пасьля гэтую ідэю ўхваліў дакладчык ПАРЭ па Беларусі, эстонскі дэпутат Андрэс Хэркель.**

Алеся Бяляцкага таксама намінавалі 190 дэпутатаў польскага Сэйму і Сэнату, 5 дэпутатаў украінскай Вярхоўнай Рады. Асобныя намінацыі Бяляцкага накіравалі ў Нобэлеўскі камітэт дэпутаты парлямэнтаў Чэхіі, Славаччыны, Нарвэгіі, а таксама прэм'ер-міністар Славаччыны Івэта Радзічава, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру 2003 году з Ірану Шырын Эбадзі.

Усяго на Нобэлеўскую прэмію міру 2012 году разам зь Бяляцкім быў вылучаны 231 намінант — 188 чалавек і 43 арганізацыі з усіх куткоў сьвету. Сярод іх яшчэ адзін палітвязень — экс-прэм'ер ураду Украіны Юлія Цімашэнка, а таксама — былы прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан, былы канцлер ФРГ Гельмут Коль, амэрыканскі салдат Брэдлі Мэнінг, якога абвінавачваюць у выдачы сакрэтных дакумэнтаў для сайту WikiLeaks, прэзыдэнт Тунісу Мунсыф Марзукі, дысыдэнты з Кубы Асвальда Пая і Ёані Санчэс. Сярод вылучаных на прэмію арганізацыяў — Эўразьвяз, расейскі Праваабарончы цэнтар «Мэмарыял», тэлеканал «Аль-Джазіра».

Рашэньне Нобэлеўскага камітэту чакаецца ў кастрычніку.

## Парламенцкія выбары ў рэгіянальным зрэзе: Гомельшчына

**У Гомельскай вобласці былі ўтвораны 17 акруг па выбарах у Палату прадстаўнікоў.**

На ўсіх акругах былі вылучаны кандыдаты «ад улады» - старшыні раённых выканкамаў (Рэчыцкага – Пётр Шостак, які балатаваўся па Буда-Кашалёўскай акрузе, Жлобінскага – Леанід Апанасюк, які балатаваўся па аднайменнай акрузе), старшыня райсавету дэпутатаў (Светлагорскага – Галіна Філіповіч), кіраўнікі буйных прадпрыемстваў (па Гомельскай-Сяльмашаўскай акрузе балатаваўся генеральны дырэктар ВА «Гомсельмаш» Валер Жмайлік, па Рэчыцкай – дырэктар Рэчыцкага метызнага заводу Адам Вашкоў, па Калінкавічскай – начальнік аддзялення Беларускай чыгункі Аляксандр Удодаў), рэктар Беларускага гандлёва-эканамічнага універсітэту Ала Навумчык, галоўны ўрач абласнога кардыялагічнага дыспансеру Ганна Лапаціна і іншыя начальнікі высокага рангу.
Гэта з пачатку кампаніі вызначыла характар правядзення выбараў, асаблівасці збору подпісаў, правядзення агітацыі і датэрміновага галасавання.

Працяг на стар. 2

### СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

**Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года турмы ў лістападзе летась. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць.**

**Падставай для крымінальнага пераследу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму Менску Літва і Польшча.**

**Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу.**

# Алесь Бяляцкі Леаніду Судаленка - я знахожуся ў камандзіроўцы, акурат паміж Менскам і Гомелем

Праваабаронца з Гомелю, старшыня Гомельскага аддзялення рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Прававая ініцыятыва" Леанід Судаленка атрымаў ад свайго палітычна зняволенага калегі Алеся Бяляцкага паштоўку, датаваную 2 кастрычніка. Палітвязень выказвае шчырую падзяку за віншаванні, якія былі яму дасланыя з Гомеля ў бабруйскую турму напярэдадні дня народзінаў.

*"Добры дзень шаноўны Леанід! Дзякуй за віншаванне. За мяне дзядзька моцна не хвалюйся. Я і так з вамі. Адзінае, што ў камандзіроўцы, "акурат" паміж Менскам і Гомелем. Трымайцеся там, не апускайце рукі і тады ўсё будзе добра. Да сустрэчы, Алесь".*

Напамятаем, перад 25 вераснем, калі палітвязень святкаваў свой пяцідзесяцігадовы юбілей 50 віншавальных паштовак пайшло на яго адрас з Гомельскага рэгіёну. Гомельскія праваабаронцы, грамадскія ды палітычныя актывісты жадалі палітвязню Алесю у такі складаны для яго час як мага хутчэй выйсці на волю і далучыцца да праваабарончай дзейнасці.

**gomelspring.org**



# Парламенцкія выбары ў рэгіянальным зрэзе: **Гомельшчына**

**Пачатак на 1 стар.**

Гэта з пачатку кампаніі вызначыла характар правядзення выбараў, асаблівасці збору подпісаў, правядзення агітацыі і датэрміновага галасавання. На ўсю моц быў задзейнічаны адміністрацыйны рэсурс, што ставіла кандыдатаў ад улады і ад апазіцыі ў няроўныя ўмовы. Напрыклад, напярэдадні 1 верасня ў сярэдніх школах Чыгуначнага раёна праходзілі бацькоўскія сходы, на якіх адміністрацыі школ заклікалі прагаласаваць за дырэктара школы №5 Віктара Фесака.

Таксама ў школах Цэнтральнага раёна бацькоў заклікалі прагаласаваць за начальніка аддзела адукацыі гэтага ж раёна Алега Леўшунова. Абсалютная большасць сябраў участковай камісіі складалі настаўнікі, што таксама гаворыць не на карысць роўных умоў у агітацыі. У Прамысловай акрузе, дзе балатавалася галоўны ўрач кардыялагічнага дыспансеру, некалькі ўчасткаў былі размешчаны ў медыцынскіх установах, дзе на закрытых участках ніхто не назіраў за выбарчым працэсам.

Пры фармаванні ўчастковых камісій апазіцыя (АГП, БНФ і «Справядлівы свет») вылучылі для ўключэння 133 чалавек, з якіх толькі адзін стаў сябрам камісіі (у Рагачове, сябра партыі «Справядлівы свет»). Заўважана такая тэндэнцыя, што прадстаўнікі вертыкалі ўлады (райвыканкамаў, адміністрацый раёна, розных аддзелаў), а таксама настаўнікі школ траплялі ў камісіі, маскіруючыся пад грамадскасць (Чырвоны Крыж, Беларускі саюз жанчын, розныя прафсаюзныя арганізацыі). Такім чынам улада выконвала дэ-юрэ квоту ўдзелу грамадскасці ў камісіях – не менш за трацiну. Дэ-факта ж камісіі былі сфармаваны па карпаратыўным прынцыпе, то бок часта, напрыклад, з 13 сябраў камісіі 11 працавалі ў адным калектыве, узначальваў жа камісію кіраўнік дадзенага прадпрыемства ці арганізацыі.

Падчас агітацыі пры правядзенні выступаў па тэлебачанні ў эфір не прайшлі запісы выступаў кандыдатаў ад АГП. А прадстаўнікі кандыдатаў ад улады адмаўляліся ад удзелу ў тэледэбатах.

Варта адзначыць, што на 15 акругах з 17 удзел у выбарах прынялі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты прадстаўнікі ЛДП. Але яны не праводзілі актыўнай агітацыі (пікетаў, сустрэч з выбарцамі). Таксама не праводзілі актыўнай агітацыі кандыдаты ў дэпутаты ад улады. Складаецца ўражанне, што выбары павінны былі прайсці (і прайшлі) як мага цішэй і незаўважней для выбарцаў.

Дзяржаўныя СМІ (раённыя газеты) пісалі пра выбары тэлеграфна, перадрукоўваючы афіцыйныя паведамленні ЦВК ці агенцтва БЕЛТА. Персаналіі – кандыдаты ў дэпутаты, іх давераныя асобы, ці аналітычныя і дыскусійныя артыкулы ў раённых газетах не з'яўляліся. Раз-пораз у дзяржаўнай прэсе з'яўляліся артыкулы з узгадваннем пра апазіцыю, але такія артыкулы насілі, як правіла, негатыўны і асуджальны характар. Асабліва адзначыліся шэрагам такіх артыкулаў газеты «Свабоднае слова» (Рагачоў) і «Савецкі раён» (Гомель).

Кандыдаты ад АГП (сем чалавек) і БНФ (1) пасля сходаў 15 верасня адмовіліся ад удзелу ў выбарах. У Гомелі дзве акругі былі безальтэрнатыўныя. Па адной (Сяльмашаўскай) балатаваўся генеральны дырэктар «Гомсельмаш», які чакана перамог пры высокай афіцыйнай яўцы выбарцаў (88,4%). Па другой безальтэрнатыўнай акрузе (Навабеліцкай) балатаваўся толькі прадстаўнік ЛДП, які чакана прайграў, пры чым пры нізкай (56,2%) яўцы выбарцаў.

**Заканчэнне на 3 стар.**

# Парламенцкія выбары ў рэгіянальным зрэзе: Гомельшчына

Пачатак на 1-2 стар.

Асаблівасці выбараў па Навабеліцкай акрузе заключаліся ў тым, што перад першым днём датэрміновага галасавання (17 верасня) сваю кандыдатуру зняў праўладны кандыдат, былы памочнік прэзідэнта, галоўны інспектар па Гомельскай вобласці Ігар Пракапенка. Прычыны такога кроку грамадскасці не паведамляліся, але пасады інспектара па Гомельскай вобласці Ігар Пракапенка пазбавіўся 6 верасня па рашэнні прэзідэнта.

У дні датэрміновага галасавання назіральнікі адзначалі, што студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцаў сярэдне-спецыяльных устаноў выкладчыкі і адміністрацыя ўстаноў прымушалі галасаваць датэрмінова, нават адпускалі з заняткаў. Па выніках аказалася, што на «студэнцкіх» участках у датэрміновым галасаванні прынялі ўдзел больш за 50-60% выбарцаў.
У дзень галасавання, па дадзеных назіральнікаў, участкі былі амаль пустыя, яшчэ з раніцы ўчасткі наведвалі пенсіянеры, а у 16.00-18.00 на пяці ўчастках у цэнтры Гомеля выбарцаў практычна не назіралася. Разам з тым, улада прадэманстравала высокую яўку па вобласці (ад 63,9% - па Цэнтральнай акрузе, да 91,8% - па Хойніцкай).

Назіральнікі адзначалі, што па Савецкай акрузе прагаласавалі не больш за 35% выбарцаў, акруговая ж камісія падала лічбу ў 69%. Варта заўважыць, што рэальна сачыць за падлікам галасоў назіральнікі не мелі магчымасці. Напрыклад, на участку №4 (Цэнтральная акруга) назіральнікам прапанавалі сачыць за падлікам галасоў за 11 метраў ад стала, а на ўчастку №20 (Цэнтральная акруга) назіральнікі сачылі за падлікам галасоў з калідору.

Пералічаныя факты даюць падставы зрабіць выснову, што выбары ў парламент па Гомельскай вобласці не былі свабоднымі і празрыстымі, праходзілі з парушэннямі нормаў Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь і не адпавядалі міжнародным стандартам правядзення выбараў.

**Праваабаронцы за свабодныя выбары**



# Ярмошына адмаўляецца пералічваць галасы

**Звыш двух дзясяткаў заяў накіравалі гомельскія назіральнікі ў Цэнтравыбаркам, у якіх не пагадзіліся з вынікамі выбараў у Гомельскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе № 33 і Гомельскай-Савецкай выбарчай акрузе № 34. Аспрэчвалі вынікі выбараў і незалежныя кандыдаты ў дэпутаты ў гэтых акругах — Сяргей Сергіенка ды Ігар Случак.**

«Толькі нашыя назіральнікі з 33-й акругі накіравалі 15 пратэстных заяў у Цэнтрвыбаркам, у якіх указалі на шматлікія парушэньні Выбарчага кодэксу падчас датэрміновага й асноўнага галасаваньня. Усе яны зафіксавалі й прыпіскі яўкі выбарцаў на ўчасткі, на асобных — больш, як у два разы. Таму й патрабавалі ад Цэнтрвыбаркаму зрабіць паўторны падлік галасоў», — кажа кіраўнік Гомельскай абласной арганізацыі партыі левых «Справядлівы сьвет» Уладзімер Сякерка.

Падрбная сытуацыя назіралася і ў 34-й Савецкай выбарчай акрузе.

Адна з аўтарак скаргі ў Цэнтравыбаркам, назіральніца з участку № 20 згаданай выбарчай акругі Людміла Судзілоўская апавяла:

«Уражаньне жахлівае. Нават у самым страшным сне нельга спраўдзіцца таму, што я пабачыла наяве на сваім участку. Папершае, абсалютная сакрэтнасць ва ўсім, што тычылася колькасці выбарцаў, бюлетэняў. Па выніках назірання на ўчастку прагаласавалі 507 выбарцаў, а ў пратаколе камісія паставіла 1149. Розніца — 642 чалавекі. Ня толькі прыпісалі, але і ў скрыню датэрміновага галасаваньня кінулі столькі бюлетэняў, колькі хацелі».

Агулам па выніках суцэльнага бесьперапыннага назірання на 27 участках 34-й акругі прагаласавалі 35,1 працэнта выбарцаў, а камісія падала — 69 працэнтаў.

На гэта старшыня Цэнтравыбаркаму Лідзія Ярмошына даслала многім заяўнікам стандартныя адказы: «Праведзены Вамі на ўчастку для галасаваньня візуальны падлік колькасьці выбарцаў, якія атрымалі бюлетэні ў перыяд датэрміновага галасаваньня і ў дзень выбараў, ня мае прававога значэньня, паколькі такая працэдура выбарчым заканадаўствам не прадугледжана».

Кіраўніца Цэнтравыбаркаму спаслалася таксама на артыкул 55 Выбарчага кодэксу, паводле якога колькасьць выбарцаў, якія атрымалі бюлетэні, вызначаецца па сьпісе выбарцаў, а колькасьць прагаласаваўшых — па бюлетэнях у выбарчых скрынях. Адсюль і выснова: «Падставаў для пастаноўкі пытаньня пра паўторны падлік галасоў… няма». І такія адказы-клішэ — на кожную заяву. Розьніца толькі ў назвах участкаў і акругаў.

А 5 кастрычніка Цэнтрвыбаркам на сваім паседжаньні цалкам разгледзеў заявы грамадзянаў наконт абскарджваньняў вынікаў выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў пятага скліканьня ў Гомельскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе № 33 і Гомельскай-Савецкай выбарчай акрузе № 34 і вырашыў абсалютна ўсе заявы не задавальняць.

**Радыё Свабода**

# Гамяльчук патрабуе азнаямлення са спісам выбарцаў на яго ўчастку

Жыхар Гомеля **Эдуард Нелюбовіч** накіраваў заяву ў Цэнтральную камісію па выбарах, ён просіць прадставіць яму магчымасць азнаёміцца са спісам выбарцаў па яго ўчастку для галасавання ў той частцы, якая мае адносіны да яго як выбарца.

Сваю просьбу патлумачыў так: ён удзелу ў галасаванні не прымаў, а абвешчаны афіцыйны вынік выбараў па Гомельскай-Цэнтральнай акрузе закранае ягоныя, як выбарца, правы і законныя інтарэсы. *«У розных СМІ з'явілася інфармацыя аб тым, што выбарчыя камісіі фальсіфікавалі вынікі мінулых выбараў, у тым ліку і шляхам галасавання замест грамадзян, якія не прымалі ўдзел у галасаванні. Згодна з артыкулам 34 Канстытуцыі, грамадзянам гарантуецца права па атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, якія абавязаны прадставіць грамадзяніну магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы»,* - напісаў Эдуард Нелюбовіч у ЦВК. Праваабаронца Леанід Судаленка лічыць, што жыхар Гомеля мае такое права – прыйсці у выканаўчы камітэт ці адміністрацыю раёна (орган, які фармаваў участковыя камісіі), дзе павінны захоўвацца спісы выбарцаў, і азнаёміцца са спісам, каб упэўніцца, што за яго ніхто не прагаласаваў. *«А не прымаць удзел у галасаванні – гэта таксама права грамадзяніна»,* - заўважыў праваабаронца.

**“Праваабаронцы за свабодныя выбары”**

# Гомельшчына: выбарцы вельмі любяць начальнікаў

**Раённыя газеты Гомельскай вобласці нарэшце надрукавалі вынікі выбараў у Палату прадстаўнікоў. Пры высокай яўцы (больш за 91% - па Хойніцкай акрузе, і больш за 80% - па некаторых іншых) начальнікі-кандыдаты «перамаглі» з высокімі адсоткамі.**

**Наогул, такім адсоткам, якія сведчаць пра поўную любоў выбарцаў да кандыдатаў-начальнікаў, пазайздросцілі б кандыдаты ўсіх краінаў свету. Прычым пры амаль поўнай адсутнасці агітацыйнай кампаніі.**

**Напрыклад, кандыдат у дэпутаты па Хойніцкай акрузе Святлана Чэкан (начальнік Брагінскага раённага спажывецкага таварыства) «перамагла», набраўшы 70,45% галасоў выбаршчыкаў (жыхароў Хойніцкага, Брагінскага, Лоеўскага і Нараўлянскага раёнаў). Яе канкурэнты атрымалі 14,15% і 4,77%.**

**Дарэчы, практычна 5 тысяч выбарцаў Хойніцкай акругі прагаласавалі супраць усіх кандыдатаў.**



**Старшыня Рэчыцкага райвыканкама Пётр Шостак балатаваўся па Буда-Кашалёўскай акрузе. Ён змог “пакарыць сэрцы” жыхароў акругі настолькі, што за яго прагаласавалі 76,70% выбарцаў! Канкурэнты атрымалі 9,27 і 6,03%. Супраць усіх прагаласавалі 4 тысячы чалавек.**

**Па Мазырскай акрузе з колькасцю выбарцаў, прыняўшых удзел у галасаванні каля 50 тысяч, за кандыдата Мікалая Расоху прагаласавалі больш за 39 тысяч чалавек. А жыхары Петрыкаўскага раёна, якія ўваходзіў у склад Жыткавічскай акругі, вельмі ўпадабалі старшыню Гомельскага абласнога суда - аддалі за яе 74,07% галасоў, і гэта пры высокай яўцы – 89,41%.**

**“Праваабаронцы за свабодныя выбары”**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.